


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 11 (39), 14—20 красавіка 1993 г. Цана 3 рублі


## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

- Згарэла кантора
- Школа на ростанях
- Не хочаш галадаць— вучы іўрыт!
- На што падпісацца?

## Злачынства супроць Бацькаўшчыны здзейснена

**9 красавіка наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета насуперак Дэкларацыі аб суверэнітэце прагаласавала за вайсковы саюз з Расіяй.**

**Незалежнасці Беларусі нанесены цяжкі ўдар.**

*Весткі з раёнаў*

### А «мястэчка» гучыць радней

Чытач шумілінскай раёнкі «Герой працы» І. Крывіч запрапанаваў уладам змяніць статус Шуміліна з гарадскога пасёлка на мястэчка. Аўтар матывуе ідэю тым, што раённы цэнтр нікольні не падобны на гарадскі пасёлак XX века, а з'яўляецца «самым сапраўдным мястэчкам мінулага стагоддзя». Ён звярнуў увагу й на тое, што вяртанне забытага слова паспрыяе адраджэнню беларускай мовы.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

## ЗВАРОТ
### да дэпутатаў Віцебскага гарадскога Савета

**ПАВАЖАНЫЯ НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ!**

Сёння, нягледзячы на крызісныя абставіны, вы маеце рэальную магчымасць папоўніць бюджэт горада ды палепшыць жыццё віцяблян.

Вы ведаеце, што выканкам не меў паўнамоцтваў прадаваць камунальную маёмасць у прыватныя рукі, але за бясцэнак прададзен рад пабудоў.

Так, напрыклад, гарадское таварыства з абмежаванай адказнасцю «Віцебскзнешбуд» (дырэктар В. Саксонаў) прыватызавала за 3,8 мільёна рублёў незавершанае будаўніцтва двухпавярховай прыбудовы да 18-ціпавярховага дома на Маскоўскім праспекце (350 м$^2$). Аб'ект жа каштуе 15 мільёнаў. І толькі пасля ўмяшання Кантрольнай Палаты Рэспублікі недаплата вернута ў казну.

Арэнднае прадпрыемства «Другі гархарчгандаль» прыватызуе ўсю гандлёвую арганізацыю (у тым ліку 22 крамы, якія стаяць асобна) за суму каля 100 мільёнаў рублёў, у той час, калі ў студзені 1993 г. у г. Маладзечна толькі адзін магазін быў прададзены з аўкцыёна за 39 млн. руб.

Мы звяртаемся да вас, шаноўныя спадары, каб вы, адказныя за гарадскую камунальную маёмасць:

—дамагліся вяртання гораду ўсяго, што прададзена з парушэннем закона, а вінаватых у гэтым службовых асоб прыцягнулі да адказнасці.

—дабіваліся ажыццяўлення продажу будынкаў толькі з аўкцыёнаў, за выключэннем убудаваных у жылыя дамы памяшканняў, якія трэба аддаць у доўгатэрміновую арэнду.

—грошы, атрыманыя ад продажу, накіравалі на будаўніцтва жылых дамоў і развіццё сацыяльнай інфраструктуры.

—разгледзелі пытанне аб прыватызацыі гархарчгандлю як адзінае цэлае з пункту гледжання антыманапольнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Шаноўныя дэпутаты!

На вас ляжыць адказнасць за камунальную ўласнасць горада і дабрабыт віцяблянаў. Прытрымліваючыся вышэйвыкладзеных прапаноў, вы рэальна зможаце згладзіць сацыяльнае напружанне ў пераходны перыяд да рыначнай эканомікі.

**Ад Віцебскага гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»**
**Барыс ХАМАЙДА,**
**Юрый ХЛОПКАЎ,**
кандыдат фізіка-матэматычных навук,
**Уладзімір ПАДГОЛ,**
кандыдат філасофскіх навук.
**Ад Віцебскай рады БНФ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА,**
**Ігар ЦІШКІН.**
**Ад гарадской філіі БСДГ**
**Уладзімір ДУБАВЕЦ,**
кандыдат эканамічных навук,
**Валянцін АРЛОЎ.**
**Ад гарадской арганізацыі АДПБ**
**Валеры ЖУРАКОЎСКІ.**
**Ад гарадской арганізацыі БХДЗ**
**Вадзім БАРШЧЭЎСКІ.**

### Цікавы дапаможнік

Для віцяблян, якія адкрываюць забытыя альбо маловядомыя старонкі гісторыі горада і жыцця ягоных жыхароў, новая брашура «Марк Шагал. Основные даты жизни и творчества» — цікавы дапаможнік.

Аўтар, віцебскі краязнавец Аркадзь Падлiпскі сабраў у кніжку з розных крыніцаў асноўныя факты з жыцця й творчасці Мастака, вывучэння даследчыкамі ягонай духоўнай спадчыны. У яе таксама ўвайшло больш паўсотні цытатаў з Шагала і аб Шагале.

Выданне ўбачыла свет дзякуючы фундатару—малому прадпрыемству «Макраміцэты». А ўсе даходы ад кнігі пойдуць у Фонд Дома-музея Марка Шагала.

**Н. КІЛДЗІНГ.**

Так і будзе.



### Юбілей. А музея няма...

Сёлета спаўняецца стагоддзе з моманту заснавання (1893) у Віцебску Е. Раманавым і А. Сапуновым царкоўна-археалагічнага музея. Ён налічваў больш тысячы экспанатаў. Сярод іх найкаштоўнейшымі былі кнігі й дакументы ўстаноў праваслаўнай Полацкай епархіі, пра якія у 1898 годзе пісаў у кнізе «Архіў Полацкай духоўнай кансісторыі» Сапуноў.

На жаль, пасля кастрычніцкага перавароту, у 19-м, музей быў ліквідаваны, а большасць ягоных матэрыялаў перададзена Віцебскаму губернскаму музею (цяпер абласны краязнаўчы).

**Ю. Т.**

## ВІНШАВАННЕ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

**На адрас рэдакцыі ад прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады М. Зуя і сакратара БЦР В. Цярпіцкага прыйшло віншавальнае пісьмо з нагоды 75-ых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Беларускаму народу, пішуць беларусы з Аўстраліі, давялося стагоддзямі быць паняволеным суседзямі з усходу і захаду. Захопнікі імкнуліся зацерці сляды рэлігійнай і культурнай свядомасці нашага народа. Але зрабіць гэта ім не ўдалося.

Падзеі Першай сусветнай абудзілі народ да адбудовы дзяржаўнай самастойнасці. Актам 25 сакавіка 1918 года на 1-м Усебеларускім Кангрэсе была абвешчана вольная й незалежная БНР.

Аднак «маскоўская дзяржава збройнай сілай паняволіла» Беларусь, уключыўшы яе ў бальшавіцкую імперыю.

«Нягледзячы на перажытае ліхалецце», беларускі народ на 2-м Усебеларускім Кангрэсе 27 чэрвеня 1944 г. ануляваў усе пастановы ворагаў і зацвердзіў незалежнасць краіны, абвешчаную ў 1918-м годзе. Кангрэс выбраў «народнае прадстаўніцтва—Беларускую Цэнтральную Раду для прадаўжэння змагання за вызваленне Беларусі».

Менавіта эміграцыя, на думку складальнікаў віншавання, працягвала вызвольную барацьбу за незалежную Беларусь. «Зусім ёсьць магчымым, што сёньня не існавала-б Рэспубліка Беларусь, каб не наша палітычная дзейнасьць»,—гавораць яны далей.

Напрыканцы ліста М. Зуй і В. Цярпіцкі выказваюць надзею на тое, «што ў недалёкай прышласьці будзе скліканы ў сталіцы Беларусі» ў тым жа памяшканні, дзе праходзіў адзін з папярэдніх кангрэсаў, 3-ці Усебеларускі Кангрэс.

**Ю. С.**



## Вясёлы глобус

*Адна пара адзначае залатое вяселле. Жонка заўважае ў вачах мужа слязу. «Я не ведала, што ты сентыментальны»,—кажа яна. Муж: «Ды справа не ў тым. Памятаеш, калі твой бацька заспеў нас у пуні, ён сказаў, што справіць мне 50 гадоў турмы, калі я не ажанюся з табой. Сёння я б быў ужо вольным чалавекам...».*

***

*Хлопчык пытаецца ў мамы:*

*—Мама, а чаму на вяселлі нявеста заўсёды ў белым?*

*—Ды таму, што гэта самы шчаслівы дзень у яе жыцці.*

*—А, тады зразумела, чаму жаніх заўсёды ў чорным,—робіць выснову хлопчык.*

●

**Прыгажосць уратуе свет**

Мне і сумна й вясёла чароўна...

**Фота А. Мемуса.**

●

**Беларускі друк— да вашых паслуг!**

Распачалася падпіска на другое паўгоддзе. Кошты ўсіх выданняў рэзка выраслі. Але беларускамоўныя газеты і часопісы,як і раней,застаюцца больш таннымі і не менш цікавымі. Так што выбірайце!

**Газеты (падпіска на паўгода)**

| | | |
|---|---|---|
| 63124 | «Пагоня» (Гародня) | **303-00** |
| 63125 | «Наша Ніва» | **150-00** |
| 63126 | «Беларускае тэлебачанне і радыё» | **372-00** |
| 63129 | «Чырвоная змена» | **288-00** |
| 63850 | «Звязда» | **624-00** |
| 63854 | «Голас Радзімы» | **138-00** |

**Часопісы (падпіска на паўгода)**

| | | |
|---|---|---|
| 74820 | «Беларусь» | **150-00** |
| 74822 | «Бярозка» | **108-00** |
| 74823 | «Роднае слова» | **270-00** |
| 74830 | «Беларускі гістарычны часопіс» | **270-00** |
| 74844 | «Вожык» | **180-00** |
| 74926 | «Родная прырода» | **75-00** |
| 74957 | «Маладосць» | **240-00** |
| 74958 | «Мастацтва» | **318-00** |

Працяг нашага міні-каталога чытайце ў наступным нумары.

*Агляд друку*

## «БЕЛАРУС» ДАПАМАГАЕ ВІЦЕБСКУ

Выйшаў лютаўскі нумар «Беларуса», газеты беларусаў у вольным свеце.

Ці варта ўспамінаць мінулае?—пытаецца ў матэрыяле на першай старонцы выдання Б. Рагуля. Лепш можа забыцца ды пачаць будаваць новае? Не згадваць пра Катынь, Курапаты, Салаўкі?

«Але ці гэта будзе маральна правільна, справядліва і карысна?»—разважае далей аўтар. Яўрэі не дазваляюць свету забыцца пра шэсць мільёнаў іхных суродзічаў, закатаваных гітлераўцамі. І не дзеля таго, каб адпомсціць, а толькі таму, каб падобныя злачынствы не паўтарыліся.

Б. Рагуля прыводзіць яшчэ адзін аргумент супраць гістарычнага бяспамяцтва: чалавек, «які ў выніку аварыі страціў» поўнасцю памяць, «ня ведае, хто ён, дзе жыў, дзе нарадзіўся, адкуль ён узяўся. Людзі гэткія вельмі нешчасьлівыя і вельмі часта канчаюць жыцьцё самагубствам».Карэспандэнт мяркуе, «што падобнае зьявішча таксама і з народамі, якія пазбаўленыя сваёй гісторыі». Небяспека самагубства дамоклавым мячом вісіць над беларусамі. Ці дамо сябе загубіць?

К. Калоша завяршае свой артыкул «Наведаньне Бацькаўшчыны-Беларусі» (пачатак быў у нумары 395-м). Пра побыт мітрапаліта Беларускай Праваслаўнай Царквы Філарэта ў царкве св. Кірылы Тураўскага ў нью-ёркскім раёне Рычманд-Гіл піша Васіль Шчэцька.

У газеце знаходзім ліст-просьбу дырэктара Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Л. Кузьменкі аб дапамозе ў стварэнні новай экспазіцыі. Яна будзе расказваць пра некаторых эмігрантаў з Віцебшчыны, што змушаны былі пакінуць радзіму пасля кастрычніцкага перавароту.

Спадзяемся, што нашыя суайчыннікі адгукнуцца, тым болей, што гэта—не першая просьба віцяблянаў дапамагчы. Год назад наш мастак А. Пушкін звярнуўся праз «Беларус» за падтрымкай. Дзякуючы ахвяраванням многіх нашых эмігрантаў, адкрылася першая прыватная мастацкая галерэя.

Не абмінае месячнік і літаратурную творчасць. Чытачы знаёмяцца з беларускай нацыяналістычнай казкай (вось такое жартаўлівае вызначэнне жанру) «Душок» Б. Тапчагі-Вязьніцкага ў апрацоўцы С. Сокалава-Воюша, а таксама з англамоўным вершам Веры Рамук «Два арлы», прысвечаным нававыбраным прэзідэнту й віцэ-прэзідэнту ЗША.

«Беларус» змяшчае інфармацыі, аб'явы, заявы й звароты БНФ, БСДГ, іншых беларускіх дый эміграцыйных арганізацыяў. Ён падае агляд замежнай і беларускай прэсы, у тым ліку і аршанскага «Беларускага калекцыянера».

Ю. С.

**Беларускі тэатр «Лялька», Беларускі фонд культуры, абласное ўпраўленне культуры ладзяць 19 красавіка ў Віцебску свята БЕЛАРУСКАЙ ЛЯЛЬКІ. Яно пройдзе ў памяшканні Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.**

## Праграма свята

| | |
|---|---|
| **10-30—11-00** | Лялечны карнавал ля будынка тэатра (артысты Беларускага тэатра «Лялька», тэатр звяроў, духавы аркестр СШ № 1). |
| **11-00—11-30** | Выступленні малодшай групы аркестра народных інструментаў СШ № 29, фальклорнага калектыва «Вясёлка», духавога аркестра СШ № 33. |
| **11.30** | УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЕ СВЯТА |
| **11-30—12-00** | Конкурс малюнка «Мая любімая лялька» і віктарына. Парад-але герояў казак школьных лялечных калектываў. Выступленне тэатра-студыі пантамімы «МІМ». Прывітанне вучылішча мастацтваў. |
| **12-00—13-00** | «Прыгоды трох парасят», спектакль тэатра «Лялька». |
| **13-00—13-30** | Падвядзенне вынікаў віктарыны і конкурса. Выступленне дзіцячых лялечных калектываў (камерная сцэна). |
| **13-30—14-00** | Выступ узорнага ансамбля танца «Рамонкі» (вялікая сцэна), у фае—кірмаш, выставы. |
| **14-00—15-00** | ПЕРАПЫНАК |
| **15-00** | АДКРЫЦЦЕ ДРУГОЙ ЧАСТКІ ПРАГРАМЫ |
| **15-00—15-30** | Выступленне старэйшай групы аркестра народных інструментаў СШ № 29. |
| **15-30—16-00** | Віншаванне дзіцячай школы мастацтваў. Дуэт класічнай гітары (вялікая сцэна). |
| **16-00—17-00** | «Папялушка», спектакль тэатра «Лялька». |
| **17-00—17-15** | Падвядзенне вынікаў конкурса на лепшы малюнак. |
| **17-15—18-15** | Тэатр гульні Віцебскага ГЦК. |

## Рэпертуар Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа

| | |
|---|---|
| **14 красавіка** | «Касатка» |
| **15 красавіка** | «Сылгалі Богу, сылгалі» |
| **16 красавіка** | «Залёты» |
| **17 красавіка** | «Шчаслівае здарэнне» |
| **20 красавіка** | «Кошчын дом», пачатак у 10 гадз. і 12 гадз. 30 хв. |

Пачатак вечаровых спектакляў а 19 гадз.
Даведкі па тэл.: **36-06-80, 36-00-43.**

Вы жадаеце штосьці прадаць, абмяняць, купіць, кагосьці павіншаваць—адным словам—зрабіць бясплатную аб'яву? Звяртайцеся да нас лістоўна ці па тэлефоне **37-28-44.**

Выбар

Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
Тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры передруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выходзіць штотыднёва па сярэдах**

Нумар падпісаны да друку 13.04.93 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**